Ў нумары:


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (485) | ГОД X | 13 ЧЭРВЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.

## КНІЖКА - ГЭТА ДАХОД

Пасля вайны Клюковічы, бадай, мелі перспектывы авансу да местачковага жыцця. Тут знаходзілася гміна і ГС, многа канцылярый і прыезджых кліентаў з навакольных вёсак. Урэшце, знаходзіцца тут вялікая школа пабудаваная ў палацовым стылю яшчэ ў дваццатыя гады.

З часам вялікую гміну замянілі грамадскія рады, а чатыры гады таму назад перанесена ГС з Клюковіч у Нурэц-Станцыю. Гандлю нашых дзён цяжка без таннага чыгуначнага транспарту, увесь час Клюковіцкі ГС карыстаўся далёкай Чаромухай-Станцыяй, там будаваў склады... Ясна, што такая эканомія — гэта была не эканомія!

Клюковічы засталіся вёскаю з вясковымі крамамі. Адсюль да бліжэйшага чыгуначнага прыпынку Баравікі будзе добры дзесятак кіламетраў, даязджае сюды толькі аўтобус ад мястэчка Мілейчыцы, па свежа пабрукаванай дарозе.

Аднак Клюковічы захавалі сваю ў пэўным сэнсе цэнтральную пазіцыю ў аколіцы. Перад усім, знаходзяцца тут розныя пункты скупу: збожжа, бульбы, жывёлы, цукровага бурака. Пабудавана апошнім часам яшчэ адзін пункт, так званую малачарню. Усё ж такі тутэйшыя наракаюць, што цяжка з заробкамі — наёмныя фурманкі выручаюць цяпер аўтамашыны, грузавікі.

(Працяг на стар. 4)

## У Нарве

Нарва — вёска немалая. Налічвае яна каля паўтары тысячы жыхароў. Да таго калісьці была яна звыш 400 гадоў горадам і то горадам старэйшым ад самога Беластока. Але ад 1932 года Нарва з'яўляецца ў адміністрацыйным плане звычайнаю вёскай.

Да вайны ў Нарве было шмат рамеснікаў і гандляроў яўрэйскага паходжання, якія абслугоўвалі патрэбы навакольных вёсак. Зараз стараецца падмяніць іх у гэтым нараўскі ГС. З Нарвы далёка да сапраўдных гарадоў: Беластока, Гайнаўкі, Бельска. І як ні кажы, а Нарва мусіць застацца ў нейкай ступені гаспадарчым, адміністрацыйным і культурным цэнтрам, — у нейкай ступені «сталіцай» тутэйшай аколіцы.

У Нарве даўным - даўно ў аўторак адбываецца ярмарка. Зараз ГС у гэты дзень наладзіў пункт скупу мясной жывёлы. Народ тлумна з'язджаецца ў кожны аўторак у Нарву, каб пабываць на ярмарцы, у пункце скупу ГС, ды пахадзіць па нараўскіх крамах, у якіх можна купіць амаль усё, што патрэбна ў гаспадарцы.

* * *

Калі наш рэпарцёр з'явіўся ў Нарве падышлі да яго маладыя людзі і сказалі:

— Абмалюйце добра нашае кіно. Каб у такой асадзе, як Нарва, не можна было кінакарціны паглядзець!

— А што такое здарылася?

— Ужо два месяцы няма кінафільмаў, бо ў кіно столь завальваецца і няма каму адрамантаваць. Можаце ў Грамадскай радзе спытацца.

Спытаўся. Аказваецца, стары будынак кіно сапраўды закрыты з прычыны рамонту, кіно аднак перанесена ў святліцу пажарнікаў, дзе дае свежыя кінакарціны два разы ў тыдні. Ды бяда ў чым іншым: няма гледачоў.

— Прыдзе, — сказалі мне ў Прэзідыуме ГРН, — нейкіх 20 чалавек і гэта ўсё, проста няма каму даваць кінакарціны.

Ды наогул Нарва, можна сказаць, «хварэе» ў пэўнай ступені на перарост устаноў культурнага характару: ёсць тут дзве святліцы, два клубы-кавярні, апрача таго тэлевізар у школе, ну і, як мы ўжо гаварылі, кіно.

* * *

Вось менавіта: аж дзве кавярні. Адну з іх наладзіла прадпрыемства «Рух», а другую Нараўскі ГС. Дзве кавярні сведчаць аб добрых амбіцыях Нарвы. Бо кавя-

(Працяг на стар. 4)



М. Забэйда ў сваім памяшканні рыхтуецца да канцэрта Прага 1961 г

## Міхасю Забэйдзе 65 год

14 чэрвеня г.г спаўняецца 65 год з дня нараджэння слаўнага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. З гэтай нагоды шлем дарагому Юбіляру найсардачнейшыя віншаванні і пажаданні далейшай плённай працы ў папулярызацыі беларускай песні.

### ПЕСНІ

Слухаючы Забэйду-Суміцкага

Зямля,
хоць такая вялікая,
А ўсяго пясчынка сусвету;
А ў песні,
самай кароткай,
Змяшчаецца цэлы сусвет,
У сэрцы —
маленечкім жаўранку —
Жыве столькі матчыных песень...
І ты маеш сотні сусветаў —
Ты самы багаты чалавек на зямлі!

Янка Сіпакоў



Від на асаду Нарву ад ракі Нарвы.

Фота: аўтар.

### СВЯТКАВАННЕ ГРАМАДЫ

У сувязі з саракагоддзем заснавання Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады 26 чэрвеня г.г. у кінатэатры прафсаюзаў у Беластоку адбудзецца ўрачыстая акадэмія з мастацкай часткай. Запрашэнні можна атрымаць у ГП БГКТ.





## ВІРУС А-2

Перажылі мы апошняй зімою страх перад грыпам. Вучоныя казалі, што незвычайны гэта грып. Яго выклікае вірус А—2, які завандраваў у Еўропу з Азіі. Перад вірусам А-2 па сутнасці няма абароны. Але важна ўжо тое, што гэты вірус вучоныя «злавілі». Наш здымак паказвае дра Лефтлера з Інстытута Гігіены Універсітэта ў Базілеі (Швейцарыя), які адкрыў вірус А-2. Др Лефтлер штучна выгадаваў вірус А-2 са сліны пацыентаў на праколатых яйках.

Працы гэтыя напэўна вядуць да таго, што ў будучым будзем ведаць, як змагацца з азіяцкім грыпам.

(авл)

## Бульба на насенне

**Цэнтр прадукцыі насення Дзяржаўнага гаспадарства ў Белендорфе ля Растока (ГДР) прымяняе новыя метады перахоўвання бульбы на насенне. Такую бульбу кладуць тут у мяшкі з фоліі па 12,5 кг. і вешаюць на спецыяльных стаяках пад шалашамі таксама з фоліі. У такім шалашы можна перахаваць 27 тысяч тон бульбы.** (авл)





# ГНЯЗДО ЧАЛАВЕКАПАДОБНАЙ МАЛПЫ Ў ЕЎРОПЕ

**У клубе міжнароднай кнігі і друку ў Беластоку дзейна надзвычай цікавая выстаўка ЮНЕСКО «Шэдэўры мастацтва старажытнай Румыніі». У сувязі з тым два словы на гэтую тэму.**

Археалагічныя раскопкі паказалі, што на тэрыторыі Румыніі жылі ўжо ў палеаліце самыя старыя ў Еўропе людскія істоты, якія былі найраней адкрыты ў Паўднёвай Афрыцы і названы аўстролапітэкамі (чалавекападобныя малпы).

У перыяд неаліту тутэйшыя людзі ўжо мелі каменныя прылады працы і касцяныя гаршкі, аздобы. Іх можна на здымках убачыць на ўспомненай выстаўцы. Зроблены яны дакладна і прыгожа, дзякуючы гэтаму адносяцца да самых каштоўных забыткаў каменнай эпохі ў Еўропе.

Іншыя экспанаты сведчаць аб супрацоўніцтве, перад усім у гандлі, даўнейшых плямён сучаснай Румыніі з высокаразвітымі культурамі эгейскай і мыкенскай (княствы Грэцыі).

У VII ст. да нашай эры з'яўляюцца тут грэчаскія падарожнікі, прыносячы элементы грэчаскай культуры. З тых часоў выводзіцца заложаны грэкамі горад Істрас (Істрыя) над Дунаем, у аколіцах якога знойдзена многа дарагіх забыткаў. Да важнейшых залічаем: святыню Афрадыты (грэчаская багіня кахання) з V стагоддзя да н.э., нагробная пліта Апало-



нія, прадстаўляе двое малых дзяцей, якія трымаюцца за рукі, а ля іх ног маленькі сабачка. Гэтая пліта лічыцца спецыялістамі, як закончаны ў дасканаласці твор мастацтва.

На пачатку новай эры бурным развіццём у заваяванай рымлянамі Дакіі (цяпер Румынія) адзначаецца эпоха рымлян. Пышныя святыні, добра брукаваныя вуліцы — вось чым характэрна эпоха рымлян. Румынія ў рымскія часы буйна развіваецца, растуць новыя гарады.

III-цяе стаг. — канец панавання рымлян. На Дакію валяць дзікія плямёны готаў, нішчаць гарады і ўносяць новы ўласны воблік на звычаі і культуру Дакіі. Скарбы з гэтага перыяду — залатыя шпількі, ашыйнікі, збанкі на віно.

Далей валодае часткай Румыніі на поўдзень ад Дунаю Канстанцін Вялікі — уладар Візантыі. Пасля Візантыі прыходзяць і адыходзяць розныя плямёны, якія ў той час, нібы чорная хмара, цягнуцца з Азіі. У VII—VIII стагоддзях адзываюцца і славяне. У гэты час рымскае насельніцтва Дакіі злучаецца з славянскімі плямёнамі, і так крысталізуецца румынскі народ. Яго мова — раманская, узбагачаная славянскімі налётамі. (авл)

*Навіны экрану*

## ПЕРАД СУДОМ

Лічым лішнім шырэй распісвацца на тэму выдатнага польскага фільма «Голас мае пракурор». Тэмай яго з'яўляюцца здарэнні на вёсцы — падвойнае забойства. Фільм цікавы і абавязкова трэба яго пабачыць. Аб ім многа гаворыцца, і чутка напэўна дайшла ўжо да людзей.

Сёння раскажам коратка аб адным таксама цікавым савецкім фільме, які ў арыгінале называецца «Государственный преступник», а загаловак польскі «На тропе збродні». Ролю ваеннага злачынцы выконвае тут выдатны савецкі акцёр Сяргей Лук'янаў, які памёр у сакавіку г.г. Была гэта яго апошняя роля.

Тэма фільма: пошукі ваеннага злачынцы пасля дваццаці год ад заканчэння вайны.

А вось кароткі змест:

У час працэсу ваеннага злачынцы Берга лекарка Сямёнава гаворыць, што ў апошнія дні вайны са шпіталя ўцёк памочнік Берга — забойца і здраднік Залатніцкі. Хоць мінула ад таго часу дваццаць год, органы бяспекі распачынаюць следства. Суседам Берга ў шпіталі быў нейкі Чэрнышэў — сёння механік на ленінградскім аэрадроме. З ім навязвае кантакт малады следчы Андрэй Паліканаў. І на асобе Чэрнышэва затрымліваецца пасля доўгіх і завілых сенсацыйных пошукаў увага Андрэя і яго сяброў. Чэрнышэў аказваецца Залатніцкім. (авл)

## ВІСЯЧАЯ ДАРОГА

**Гэта не такі сабе звычайны вісячы мост на зямлі. Гэта мост над зямлёй, у паветры (такі надземны мост завецца віядуктам). Віядукт на здымку мае 4 км даўжыні (найдаўжэйшы ў Еўропе) перакінуты ён над адной лонданскай шашой.**

**Складаецца, як бачым, з дзвюх аднакірунковых, двухбетонных маставых. Збоку з'езды, якія вядуць на зямлю, на вуліцы.** (авл)



*алякcей карпюк*

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**Днём дзеці прыбягаюць скубці казе салому. На маё шчасце, пакаёвы сабачка, які прымчаў разам, не чуе чужога, а дзеці-дзецьмі, не заўважаюць, што зверху стог паменшаў.**

**Вечарам вылажу ў хвойнік. Што рабіць далей? Зноў вартаваць зборнага? На схеме з Дойчэ Эйлаў разыходзіцца таксама пяць чыгунак. У Мар'ембургу трапіўся хлопчык. А хто пакажа патрэбную стрэлку тут? Падбіраюся да шашы.**

**Чуваць польскую мову. Прапускаю сілуэты людзей, крадуся за імі. Адзін чалавек адстае, аклікаю яго папольску. Малады жвавы хлопец называе сябе Кавальскім з Млавы. Кліча яшчэ дваіх.**

**— Са Штуттофа! — з пашанай шэпча ім.**

**— Фі-і-іў!**

**Знаёмімся. Хачу прыкінуцца палякам, але ўжо позна. На маіх грудзях разглядзелі «R». Чорт, не сарваў лапіны з нумарам!**

**— Па-нямецку гаворыш здорава? — пытаецца Кавальскі.**

**— Нішто...**

**— Тады чакай тут. Адно не сыходзь з месца! — кідае мне і загадвае сябрам: — А мы — да работы, жыва!**

**Зноў застаюся адзін.**

**Хвілін праз дзесяць паказваюцца. Кавальскі трымае**

30

**мундзір чыгуначніка і ўзрушана апазядае таварышам, як удалося абакрасці свайго гаспадара. У другога фуражка. У трэцяга — нагавіцы і чаравікі. Абодва не дачакаюцца, калі прыдзе іх чарга апавядаць.**

**— На, русэк! — кідае мундзір Кавальскі.**

**Лаўлю адзенне на ляту.**

**— Толькі... Не выдасі?**

**Паляк глядзіць на мяне так выразна, што адчуваю: ніякія словы яго не ўпэўняць, ніякіх слоў і не трэба, магу адно пацвердзіць справай.**

**— Па-ане, што пан...**

**— Глядзі ж, веру!**

**— Няўжо я... — мармычу ўдзячны і на штутгофскую паласатую куртку нацягваю мундзір.**

**Ён ладны, з цёмна-сіняга сукна. На пагонах — сярэбраныя канты, а ў сяродку залаты арол трымае ў кіпцюрах залатую свастыку. Мундзір прыходзіцца ў самы раз. Крыху завялікая фуражка — высокая, з агромністым дэкам і сярэбранай эмблемай над лобам, як называюць у нас — качаном капусты. Мундзір — дзяжурнага па станцыі. Фуражка — машыніста. Нагавіцы зашмальцаваныя, бліскучыя, відаць качагара. І ўсё розных памераў.**

**— З трох швабаў збіралі, не зусім па росту!**

**— Нічога, до-обра і та-ак! — не веру такому шчасцю.**

**Адчуваю бязмерную ўдзячнасць гэтым людзям. Робіцца сорамна за ўсе дрэнныя словы, якія калікольвек сказаў на палякаў, клянуся болей ніколі не вымаўляць.**

**— Коледзы! Коледзы!.. — магу толькі выціснуць з сябе.**

**— На яшчэ трыццаць марак! — суне Кавальскі паперкі з партрэтам Бісмарка.**

**Хутка ператвараюся ў сапраўднага арыйца, яшчэ ў чыне, пры грашах.**

**— А цяпер да свайго маскараду трэба прызвычаіцца, — навучае энергічны Кавальскі. — Табе неабходна**

31

**пераканацца, што на цябе не звяртаюць увагі, трэ ўвайсці ў ролю шваба.**

**— Але як?..**

**— Звяртайся да нас толькі па-нямецку, — паляк гаварыў упэўнена, быццам тут, у Дойчэ Эйлаў, толькі гэтым і займаецца, што ездзіць пераапранутым і другіх рыхтуе. — О, хадзем у сталовую, пакуль яшчэ адчыненая, папрактыкуемся!**

**У сталовай хлопцы заказваюць піва. Прыносяць і мне. Я піва ніколі не піў. Агідная вадкасць! Адстаўляю куфаль.**

**— О, ён жа есці хоча! Трэба спачатку добра накарміць! — вырашае энергічны паляк і зноў праяўляе ініцыятыву: — Болек, папрасі Ядзю, каб паклала ў талеркі як належыць...**

**— Іду!**

**Я раптам падумаў, што гэтая хвіліна вельмі важная. Я спаткаў сваіх найлепшых сяброў! І найхутчэй за ўсё іх бачу першы і апошні раз у жыцці. Трэба паводзіць сябе неяк інакш. Хоць добра да іх прыглядзецца, запамятаць твары збавіцеляў. Ды мае вочы мімаволі зыркалі па баках. Хлопцы ўсё прыгінаюцца, перашэптваюцца, а я так і не разглядаю іх як належыць.**

**— Алекс, не бойся! — супакойвае Кавальскі. — Цяпер, калі не будзеш дурнем, то за адны суткі заедзеш дадому. Білеты купляй не на доўгія дыстанцыі, касіркі могуць патрабаваць дакументы. Сёння купі да Аленштайна, потым возьмеш да Інстэнбурга. Да яго не даязджай, а павярні на Шарфэнвізэ...**

**Сапраўды, няма чаго баяцца. Нічым не адрозніваюся ад іншых мужчын. Хіба толькі, што сяджу ў фуражцы. У Штутгофе галовы нам стрыглі і ад лоба да макаўкі выбрывалі палоску.**

**— Памятай, цяпер у немцаў столькі розных фольксдойчаў, квіслінгаў, што яны самі паміж сабой дамаўляюцца на пальцах, — дае ўжо на двары апошнія інструкцыі дзельны Кавальскі. — Смела сячы па-нямецку. На твой акцэнт ніхто не зверне ўвагі!**

32

